# Голас Радзімы

№ 25 (2115)
22 чэрвеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



У мінскім Палацы мастацтва ў маі працавала традыцыйная рэспубліканская выстаўка твораў маладых мастакоў Беларусі —«Маладзёжная-89». Праўда, традыцыйнасць яе выявілася толькі ў тым, што кожны год на адзін з веснавых месяцаў залы Палаца мастацтва аддаюць моладзі. Ва ўсім астатнім яна, хутчэй, аказалася нетрадыцыйнай.

Упершыню функцыі звычайнага «дарослага» імянітага выстаўкома былі перададзены маладзёжнаму аргкамітэту, які складаўся з саміх удзельнікаў выстаўкі. Гэта і абумовіла дэмакратычны адбор работ па прынцыпу навізны прыёмаў, часу стварэння (апошні год), узроўню прафесіяналізму, незалежна ад статуса аўтара. А статус іх, як аказалася, вельмі шырокага дыяпазону: гэта і вядомыя малады удзельнікі рэспубліканскіх і ўсесаюзных выставак, і ўчарашнія выпускнікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута і Мінскага мастацкага вучылішча імя А. Глебава, і сённяшнія студэнты, і нават навучэнцы Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву.

Вернісаж адкрыўся дасціпнай тэатралізаванай пародыяй на пампезна-самахвалебныя прамовы без цяжкасці пазнаваемых «герояў» застою, разыгранай маладымі мастакамі.

У экспазіцыі былі прадстаўлены работы самых розных творчых напрамкаў.

«Маладзёжная-89» суправаджалася культурнай праграмай і скончылася аўкцыёнам.

НА ЗДЫМКАХ: В. ЛЯМАЧКА. «26 красавіка»; В. АЛЬШЭЎСКІ. «Ікар, або лесвіца ўверх»; Ю. ПЛАТОНАЎ. «Вязень у сабе».





## РУХ ПА РОЗНЫХ АРБІТАХ

# САВЕЦКАЯ ШКОЛА Ў ЛЮСТРЫ САЦЫЯЛОГІІ

**Усесаюзны з'езд работнікаў адукацыі, які прайшоў у Маскве ў снежні мінулага года, ацэнены як самая яркая падзея ў галіне асветы ў СССР за апошнія некалькі гадоў. Напярэдадні з'езда ў рамках праграмы «Грамадская думка» было праведзена выбарачнае сацыялагічнае даследаванне аб адносінах настаўнікаў, школьнікаў і бацькоў да перабудовы школы. Вынікі апытання каменціруе старшыня Дзяржаўнага камітэта СССР па народнай адукацыі Генадзь ЯГАДЗІН.**

Не сціхаюць, а ўсё больш і больш разгараюцца страсці вакол прапанаваных на з'ездзе шляхоў перабудовы сістэмы адукацыі. У барацьбе за новую яе якасць нам даводзіцца штодзённа і штогадзінна сцвярджаць новыя маральныя каштоўнасці — асновы гуманістычных і дэмакратычных пераўтварэнняў у школе і вышэйшых навучальных установах.

На жаль, апытанне паказала, што сёння толькі шостая частка школьнікаў лічыць пазнанне новага найважнейшай каштоўнасцю ў жыцці. Каля палавіны прызнаюць каштоўнасць ведаў разам з іншым — зносінамі з сябрамі, цікавым адпачынкам. А кожнаму пятаму нічога не падабаецца ў школе: ні прадмет, ні падручнік, ні настаўнік.

Вядома, зніжэнне цікавасці да вучобы мае глыбокія сацыяльныя карані. Гэта відавочныя ў грамадстве недастаткова паважлівыя адносіны да інтэлектуальнай працы, нізкая зарплата інжынераў, урачоў, настаўнікаў і іншых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, вельмі высокая доля некваліфікаванай працы.

На з'ездзе мы абвясцілі: «Школа — для дзіцяці, вышэйшая навучальная ўстанова — для студэнтаў» — і гэта прынцыпова новы падыход да арганізацыі навучальна - выхаваўчага працэсу, усяго жыцця навучальнай установы. Гэты падыход мае на ўвазе перш за ўсё змяненне зместу адукацыі і змяненне адносін паміж настаўнікам і вучнем. Наша задача зрабіць навучанне ў школе даступным і цікавым, захапіць дзіця самім працэсам атрымання ведаў, звязаць гэты працэс з жыццём, будучай прафесійнай дзейнасцю.

77 працэнтаў школьнікаў у якасці падстаў для выбару прафесіі назвалі магчымасць праявіць у ёй сваю самастойнасць, рэалізаваць здольнасці, інтарэсы. Але дзеці не бачаць сувязі паміж выбранай прафесіяй і навучаннем у школе. Толькі трэць лічыць, што для набыцця добрай прафесіі трэба старанна вучыцца. Больш за 40 працэнтаў разглядаюць навучанне ў школе толькі як падрыхтоўку да экзаменаў. Астатнія лічаць, што ўвогуле дарэмна трацяць час і маглі б ужо цяпер працаваць па выбранай спецыяльнасці.

Другая важная прычына адсутнасці матывацыі да навучання — псіхалагічны дыскамфорт у школе, выкліканы перагрузкай вучэбных праграм, адчужэннем настаўніка і вучня. Каля 40 працэнтаў школьнікаў заявілі, што не хочуць хадзіць у школу, палавіна — не задаволена ўзроўнем ведаў, што атрымліваюць у школе. І толькі адзін з дзесяці ідзе ў школу, радуючыся сустрэчы з настаўнікам.

Гэтыя лічбы тлумачаць вельмі многае. І прымушаюць задумацца. Ці правільна мы зрабілі, рэзка павялічыўшы аб'ём і колькасць вывучаемых у школе дысцыплін? У 50-60-я гады іх было 14, цяпер — 22. Ці не расплачваемся мы за гэта фізічным здароўем тых старанных дзяцей, якія імкнуцца выканаць усе заданні настаўніка, і маральным здароўем тых, хто з-за сваіх прыродных магчымасцей не ў сілах вывучыць усё, што патрабуем, і вымушаны хітраваць, к[illegible] пазбегнуць пакарання. Да[illegible]га дабаўляецца пастаянны эмацыянальны стрэс, непазбежны для чалавека, які нешта не выканаў, не паспеў, не вывучыў, не прачытаў... Пастаянны страх пакарання — што м[illegible] быць больш шкодным д[illegible] асобы, якая развіваецца?

У выніку імкненне атрымаць веды часта падмяняецца імкненнем пазбегнуць непрыемнасцей. Гэта прыводзіць да адчужэння школьніка ад настаўніка і наадварот.

Праведзенае даследаванне дало такой з'яве колькасную характарыстыку: на думку прыкладна палавіны школьнікаў, узаемадзеянне настаўнікаў і вучняў нагадвае рух па розных арбітах дзвюх блізкіх планет. Несупадзенне «арбіт» прыводзіць да адрознення ў ацэнцы адных і тых жа з'яў. Мы становімся сведкамі ўзаемных прэтэнзій адзін да аднаго. Школьнікі гавораць пра нізкую якасць вучэбнага працэсу, адсутнасць увагі і павагі да іх асобы. Настаўнікі скардзяцца на дрэнную падрыхтоўку і дысцыпліну школьнікаў.

А вось што лічаць настаўнікі. Пераважная іх большасць (81 працэнт) упэўнены, што школа павінна толькі выявіць здольнасці дзіцяці і накіраваць яго па шляху, які адпавядае яго здольнасцям. Многія перакананы, што галоўнае ў іх рабоце — фарміраванне ў школьнікаў устаноўкі на сумленную навучальную працу (60 працэнтаў) і развіццё ў іх навыкаў самастойнага мыслення (42 працэнты). Але толькі чвэрць настаўнікаў звязвае прычыны няўдач у навучанні з іх уласнымі недахопамі ў ведах, недастатковай падрыхтоўкай, адсутнасцю неабходных навыкаў. Такая мужная пазіцыя заслугоўвае павагі. Астатнія 75 працэнтаў схільны шукаць прычыны ў вучнях, іх бацьках. Гэта сведчанне таго, што, прызнаючы на словах неабходнасць паставіць вучня ў цэнтр навучальнага і выхаваўчага працэсу, мы ўсё яшчэ знаходзімся ў палоне ва ўстаноўкі: дзіця — не сэнс і мэта, а толькі аб'ект педагагічнай дзейнасці.

Аб'явіўшы сярэднюю адукацыю абавязковай, мы сталі патрабаваць ад усіх школьнікаў узроўню ведаў, неабходных для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Гэта вельмі важна зразумець. Не ў тым бяда, што сярэдняя адукацыя стала ўсеагульнай, а ў тым, што да ўсіх школьнікаў прад'яўляюцца адны і тыя ж — высокія інстытуцкія — патрабаванні.

Упэўнены, чалавеку трэба даць столькі ведаў, колькі неабходна для развіцця яго індывідуальных здольнасцей, для выхавання жадання вучыцца, прагі пастаяннага самаўдасканалення. Значыць, трэба зменшыць нагрузку на вучня не толькі за кошт змяншэння аб'ёму кожнай дысцыпліны, але і скараціць колькасць вывучаемых прадметаў, узмацняючы індывідуальны падыход да адукацыі.

Прыняты намі дазвол пераводзіць з класа ў клас школьнікаў, не атэставаных па некаторых прадметах, і азначае ўлік іх індывідуальных здольнасцей, зняцце стрэсаў, папярэджанне развіцця комплексу непаўнацэннасці. Гэтае рашэнне — лагічны вывад з неабходнасці забяспечыць заканадаўчае патрабаванне на сярэднюю адукацыю ўсім дзецям да 17 гадоў і немагчымасці засваення імі аднолькавага аб'ёму ведаў.

Пераважная большасць педагогаў (89 працэнтаў) выказваюць упэўненасць у неабходнасці перабудовы школы. Але гэта ўпэўненасць, на жаль, далёка апярэджвае гатоўнасць да практычных дзеянняў. Прывучаныя доўгімі гадамі панавання аўтарытарнага стылю ў кіраванні жыццём школьніка да націску, крыку, каманды, многія настаўнікі неўсвядомлена баяцца даверлівых, шчырых, чалавечых адносін з пятнаццацігадовымі.

У но[illegible] вучэбных планах мы перабу[illegible]ваем праграму па літаратуры, гісторыі, іншых дысцыплінах. Павялічваем у два разы гадзіны на музыку, маляванне. Але гэта не дапаможа, калі не зменіцца ўся атмасфер[illegible] адносін, не будзе гумані[illegible]ы цалкам навучальны працэс. Вядома, гэта вельмі цяжка — штодзённа, штогадзінна аддаваць сваё сэрца дзецям. Але без гэтага няма Школы.

Цераз цяжкасці гэтыя, цераз гэтыя бар'еры трэба, неабходна прайсці. І тут ёсць на што абаперціся. Амаль 70 працэнтаў школьнікаў хочуць бачыць настаўніка сваім старэйшым сябрам і дарадцам. Вучні гатовы да супрацоўніцтва, яны чакаюць дыялога, шукаюць настаўніка, які можа стаць для іх узорам. Важна толькі, каб усе шляхі вялі да агульнай мэты — гуманістычнай, дэмакратычнай савецкай школы.



## САЛДАЦКАЯ АДВАГА

**Пацерліся па краях, пацямнелі ад часу чатыры медалі «За адвагу», якія ляжаць на далонях старога салдата...**

**Баявое хрышчэнне Мікалай Шышэя атрымаў на Вісле. У ліку першых высадзіўся на Магнушаўскі плацдарм. Калі загінулі сувязісты, сам пад шквальным агнём гітлераўцаў выпраўляў пашкоджанні на лініі і працягваў карэкціраваць стральбу батарэі. За той бой і атрымаў першы медаль «За адвагу».**

**У час бітвы пад Варшавай радавы Шышэя разам з напарнікам выклікаў агонь цяжкіх мінамётаў на сябе. Цудам застаўся жывы і атрымаў другі медаль.**

**На подступах да Берліна вызначыўся зноў. Літаральна з-пад тракаў контратакуючых нямецкіх танкаў выцягнуў і вынес у бяспечнае месца раненага камандзіра. Трэці медаль «За адвагу» ўпрыгожыў грудзі салдата. А чацвёрты заслужыў на пранізаных вогненнымі смерчамі вуліцах Берліна. За дзевяць сваіх ваенных месяцаў ён атрымаў чатыры медалі «За адвагу»—выпадак вельмі рэдкі на фронце. Пасля перамогі вярнуўся салдат на Гродзеншчыну ў родныя Шчорсы. Стаў бухгалтарам і ўсе гэтыя гады працаваў у калгасе «Звязда». А калі выйшаў на пенсію, заняўся выхаваннем унукаў.**

**НА ЗДЫМКУ: Мікалай ШЫШЭЯ з унукамі Людмілай і Віталем.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

**КАФЭ НА ПАДРАДЗЕ: ЦІ ВЫГАДНА ГЭТА!**

# ПРЫХОДЗЬЦЕ, КАЛІ ЛАСКА!

Яшчэ не так даўно, каб паабедаць у папулярным мінскім кафэ «Бульбяная», трэба было запасціся цярплівасцю і выстаяць доўгую чаргу. Цяпер жа, хоць колькасць месцаў ва ўтульнай зале і не павялічылася, натоўп, які сумаваў ля ўваходу, прыкметна паменшаў.

— Знізілася колькасць наведвальнікаў?—спытала я ў адміністратара кафэ Наталлі Васілеўскай.

— Не,—адказала яна,—гэта колькасць абслугоўваючага персаналу знізілася на 8 чалавек, а наведвальнікаў нават больш стала.

І, прыкмеціўшы маё здзіўленне, растлумачыла:

— Увесь сакрэт у тым, што мы перайшлі на калектыўны падрад, гэта значыць, узялі ўсю справу ў свае рукі.

І, мяркуючы па смачнаму абеду, які я пакаштавала, перш чым прадоўжыць размову з Васілеўскай, узялі па-гаспадарску. Праўда, фірменнай стравы, якой славіцца кафэ—тушанай бульбы з мясам у гаршчочку, не было. Але бульбяныя бліны—традыцыйная беларуская страва—таксама былі смачнымі. І ўсё ж: чаму сёння няма ў меню «гаршчочкаў»? З гэтага пытання пачала я гутарку з Наталляй.

— Падвялі пастаўшчыкі: не прывезлі мяса. Але, думаю, другі раз яны так ужо не зробяць. Гэта раней падобнае сыходзіла ім з рук, а цяпер заплацяць штраф. Такія ўмовы дагавора.

Гэты дагавор, падпісаны паміж калектывам кафэ і раённым трэстам сталовых і рэстаранаў, прадугледжвае выкананне пэўных абавязацельстваў з абодвух бакоў. Трэст, у адпаведнасці з імі, аддае ў арэнду памяшканне, усё абсталяванне, арганізуе забеспячэнне прадуктамі. А работнікі кафэ штомесяц адлічваюць трэсту 25 працэнтаў ад агульнага прыбытку, а таксама разлічваюцца за фірменнае адзенне, электраэнергію, ваду, паліва і разбіты посуд. Усе астатнія грошы паступаюць поўнасцю ў распараджэнне брыгады.

— Натуральна, толькі частка гэтай сумы ідзе непасрэдна на зарплату,—расказвае Васілеўская.— Некалькі тысяч (прыкладна 20 працэнтаў) мы трацім на тое, каб зрабіць наша кафэ ўтульным, лепш аформіць яго, абнавіць тэхніку і мэблю. З гэтых жа грошай фарміруецца «страховачны фонд»—каля тысячы рублёў адкладваем штомесяц, каб, калі раптам не выканаем план, было чым пакрыць страты. Акрамя таго, мы ўсе разам вырашылі лепшым работнікам у якасці заахвочвання набываць пуцёўкі для адпачынку, экскурсій, даваць прэміі.

— Ці застанецца ў рэшце рэшт на заработную плату?—міжволі пытаюся, у думках падсумаваўшы ўсе названыя расходы.

— Вядома,—адказвае Наталля.— І дастаткова. З таго часу, як мы перайшлі на падрад, афіцыянткі сталі зарабляць па 240 рублёў у месяц—на 60—80 рублёў больш, чым раней. Калі ж удаецца атрымаць прыбытак звыш плана, то гэтая частка грошай ужо не абкладаецца ніякімі адлічэннямі—уся ідзе ў дапаўненне да зарплаты. Вось таму і не скардзіцца ніводная з нашых дзяўчат, хаця нагрузка павялічылася амаль удвая. Ды і наведвальнікам, па-мойму, прычын для скаргаў даём менш, паколькі кожны крытычны водгук ад кліента зніжае заробак, а падзяка, наадварот, павялічвае яго. Дарэчы, размяркоўваем мы зарплату самі, на сходзе брыгады.

— І не бывае канфліктаў, спрэчак?

— Не. Па-першае, брыгадзір вядзе штодзённы ўлік работы кожнага. А па-другое, мы пастаянна знаходзімся на вачах адзін у аднаго, і схалтурыць немагчыма, як і зарабіць за чужы кошт. Арыфметыка тут простая: хто абслужыў 20 наведвальнікаў, натуральна, атрымлівае ў два разы больш таго, хто паспеў накарміць толькі дзесяцярых. Якія ж у такой сітуацыі могуць быць крыўды? Хіба што на ўласную ляноту і непаваротлівасць.

— Якія яшчэ выгады, акрамя павышэння зарплаты, дае вам калектыўны падрад?

— Эканомію ўсіх рэсурсаў без выключэння. Як ні дзіўна, нават талеркі ў нас біцца перасталі. Лічыць навучыліся, разумееце? Але галоўнае, думаю, лепш стала тым, хто прыходзіць да нас абедаць. Цэны засталіся ранейшыя (кафэ ж дзяржаўнае!), а абслугоўванне хуткае, больш ветлівае. І смачней стараемся карміць, больш разнастайна. Таму што з'явілася прамая зацікаўленасць у тым, каб больш людзей наведвалі наша кафэ, інакш мы папросту «прагарым». Вось і стараемся! Так што прыходзьце да нас, калі ласка, у любы дзень і ў любы час—заўсёды будзем шчыра рады!

Наталля БУЛДЫК.

# НАШИ ЗЕМЛЯКИ— НА ДАЛЬНИХ ШИРОТАХ



Более десяти тысяч километров разделяют Брест и Владивосток. Прекрасная возможность побывать в дальних краях представилась большой группе туристов Брестчины. Семьдесят лучших работников народного хозяйства области за свой труд получили поощрительные путевки и отправились в город на Тихом океане. В течение пяти дней знакомились они с Владивостоком, запомнилась им и прогулка по Амурскому заливу, поездка в город Уссурийск и Уссурийскую тайгу. В одном из мемориальных скверов представители Брестчины возложили цветы к плите, увековечивающей подвиг экипажа торгового судна «Белоруссия», потопленного японцами 3 марта 1944 года в Охотском море.

Знакомство с дальневосточным краем осталось незабываемым для участников поездки. Владивостокский краевой и Брестский областной советы по туризму и экскурсиям намерены впредь расширять контакты и чаще организовывать взаимные поездки туристических групп.

НА СНИМКАХ: вот он, Тихий океан; туристы из Бреста—швея фабрики «Динамо» Наталья САЕВЕЦ и воспитательница детского сада Татьяна ВОРОЖЦОВА знакомятся с Владивостоком.

Фото Э. КОБЯКА.



# КОЛХОЗ—ОБЪЕДИНЕНИЕ КООПЕРАТИВОВ

Белорусский крестьянин сегодня может получить в аренду землю, скот, технику, стать самостоятельным производителем и зарабатывать столько, сколько сможет. Но отваживаются на это пока немногие — присматриваются, как идут дела у первых арендаторов.

Колхоз имени Свердлова Могилевской области стал одним из зачинателей новой формы кооперации. В чем суть эксперимента?

Всю землю и другие средства производства — от доильных аппаратов до ферм и машинно-тракторного парка — взяли в аренду 567 вчерашних колхозников, образовав объединение из 13 кооперативов. Восемь из них занимаются производством в основном молока и мяса. Пять других — транспортный, зооветеринарный, агромелиоративный и прочие — их обслуживают. В административно - управленческом аппарате колхоза было тридцать с лишним человек, кооператоры же оставили только пять, включая председателя, остальным предложили работу в кооперативах. Некоторым это не понравилось. Часть конторских работников выступила против реорганизации колхоза: они получали гарантированную заработную плату плюс денежное вознаграждение по результатам года, а это, как правило, еще несколько месячных должностных окладов, так что существовавший порядок их устраивал. Но собрание колхозников однозначно высказалось за кооперативы.

Идею такой реорганизации предложил председатель колхоза Александр Герасимов. За образец взяли опыт двух хозяйств Московской и Тульской областей, но пошли дальше. Там в кооперативы объединились лишь животноводы, растениеводы, механизаторы, т. е. непосредственные производители продукции, а агросервис работает по старой системе и, следовательно, мало заинтересован в качественном обеспечении производства.

Кооперативное объединение под Могилевом взяло на себя все обязательства колхоза. Оговоренная в государственном заказе сельскохозяйственная продукция продается по действующим закупочным ценам—каждый из восьми производственных кооперативов выполняет свою долю госзаказа. Все, что произведет кооператив сверх того, реализуется по договорным ценам — государству, перерабатывающим кооперативам, на колхозном рынке либо по другим каналам.

Отношения между кооперативами внутри объединения строятся на принципах материальной заинтересованности. Корма, услуги, материалы — на все установлены цены. А раз приходится платить — научились экономить. Кооператоры предполагают уже в первый год заработать вдвое больше, чем они получали в колхозе. Ежемесячно каждый получает в среднем 200 рублей аванса, а основной расчет — в конце года, когда делится прибыль. Система коэффициентов помогает правлению кооператива определять реальный вклад конкретного работника в «общий котел» и начислять ему вознаграждение. Из чего складываются эти фонды? В первую очередь из средств, полученных за продажу продукции, произведенной сверх госзаказа. Солидную прибавку дала и экономия кормов. И, конечно, за счет более эффективного труда.

Теперь об обслуживающих кооперативах. Их товар — услуги, за своевременность и качество которых заказчик помимо оплаты начисляет еще и премию. Ремонтникам, к примеру, заплатят больше, если в течение сезона «не подведет» техника, ветеринарам — если животные будут меньше болеть. Агрономам начисляется надбавка за внедрение новых сортов зерновых и технических культур и прогрессивные технологии их выращивания.

С белорусским опытом познакомились уже многие специалисты из разных регионов страны.

Игорь ГЕРМЕНЧУК.

# ДЕТИ УЧАТСЯ ЛЕЖА

Беду обнаружили у Сони, когда ей исполнилось шесть лет. Родители заметили, что девочка стала сильно сутулиться. Обратились к врачу. После обследований медики поставили неутешительный диагноз: сколиоз, т. е. искривление позвоночника. И предложили отдать Соню в специальную ортопедическую школу-интернат — лечиться и учиться одновременно.

В такой московской школе — № 76 — дети учатся лежа. Как считает профессор Центрального института травматологии и ортопедии И. Кон, эта поза позволяет оптимально корректировать осанку, хотя, к сожалению, и не вылечивает недуг полностью: сколиоз — болезнь неизлечимая из-за генетически обусловленного нарушения обмена веществ.

В стране ортопедических школ около 50; самая большая, на 660 человек, в Москве. Однако, по медицинской статистике, их должно быть значительно больше: минимум по одной школе на каждые два миллиона жителей. Пока, как ни печально, это дело будущего. Поэтому районные ортопеды посылают больных детей на специальную комиссию, которая определяет степень заболевания, и в зависимости от нее ребенок направляется либо на амбулаторное лечение, либо в ортопедическую школу. Иногда требуется и операция.

Сколько придется ребенку пробыть в интернате — год, пять, девять лет, врачи не могут заранее сказать. «Поведение» позвоночника, то есть насколько градусов он будет искривляться в переходном возрасте (12—16 лет) непредсказуемо.

...Московский интернат расположился в зеленом районе. На его территории шесть корпусов: два спальных, два лечебных, два учебных. Все они соединены переходами, так что детям приходится одеваться только на прогулки. Школьное здание внешне не отличается от обычных, да и учебная программа та же. Но в классах вместо парт — жесткие кушетки с подушечками под грудь. В каждом классе лежа занимаются 19—20 человек.

— В спальных корпусах дети живут по несколько человек в комнате, — рассказывает главный врач интерната Г. Крамник. — Ночью на этажах обязательно дежурят няни, медсестры, врач. Спят дети на обычных кроватях, только вместо пижам мы надеваем на них специальные фиксаторы — своеобразные гипсовые слепки спины. Изготавливают их в наших мастерских строго индивидуально и меняют по мере роста ребенка. Такую «кроватку» туго привязывают к туловищу. Спать полагается только на спине, поэтому сестры, совершая ночные обходы, следят за тем, кто как спит.

Любым родителям тяжело расставаться со своим ребенком даже ненадолго, поэтому правилами школы предусмотрено, что дети могут уезжать домой на воскресные дни, каникулы и праздники. Правда, с одним условием — взять с собой фиксатор.

Итак, каждое утро для Сони и других учеников начинается с гимнастики, причем строго индивидуальной. Хотя диагноз у всех и один, но степени заболевания разные. «Свои» упражнения необходимо делать всегда: в школе, дома, на отдыхе, не пропуская ни дня. Мышцы спины должны быть сильными, иначе болезнь «скрутит», согнет в прямом смысле слова. Как отмечает Г. Крамник после многолетних наблюдений, к концу лечения у всех ребят появляется одно общее качество — железная сила воли.

После завтрака начинаются классные занятия. Урок длится 40 минут, на пять минут меньше, чем в обычной школе. На переменах и во время пауз на уроках обязательна разминка. После занятий дети расходятся по массажным кабинетам, идут на лечебную физкультуру, в бассейн. Затем обед, сон, прогулка, свободное время, ужин... Соне здесь нравится. «Я готова была отдать любые деньги за ее пребывание в интернате, — говорит ее мать, — и, честно говоря, была удивлена, что даже за питание платить не нужно». Все расходы — лечение, обучение, содержание — берет на себя государство.

Чтобы жизнь в интернате не казалась монотонной, подчиненной одной борьбе с болезнью, учителя литературы создали в школе клуб «ЛИРА» (Литература, Искусство, Радость). Членом клуба может стать любой желающий. Дискуссии проводятся на различные темы: история, театр, живопись... Помимо клуба есть свой школьный театр. Случается порой, что в спектакле занято по 70-80 человек, с двумя-тремя «составами» одновременно. Объясняется просто: отказать никому нельзя, у таких детей ранимая психика. Л. Гдалевич, учитель литературы, организатор клуба и театра, говорит, что многие дети эти спектакли и дискуссии вспоминают как самые светлые дни в их жизни.

По-разному складываются судьбы у питомцев школы-интерната. Безусловно, не всякая профессия доступна ее выпускникам. Запрещены монотонная, сидячая работа, большие физические нагрузки. Ребята становятся врачами, -учителями, воспитателями... Многие женятся, выходят замуж, рожают детей — одним словом, живут, как все. Другая, меньшая часть, увы, остается инвалидами.

Диагностировать сколиоз чрезвычайно трудно. Человек не чувствует боли, поэтому часто обращается к врачу, когда уже появились первые признаки искривления. До 10-летнего возраста изменения в позвоночнике происходят в среднем на один градус в год. Начиная с 12 лет процесс идет в пять раз быстрее. Во многих таких случаях требуется оперативное вмешательство. Трудно себе представить состояние 13—15-летнего ребенка, который должен решиться на операцию. Дети прекрасно знают, через какую боль им придется пройти, да и исход предугадать со стопроцентной гарантией нельзя. Операция может зафиксировать, улучшить состояние позвоночника, но может и усугубить недуг. Хирурги из Центрального института травматологии и ортопедии под руководством профессора И. Кона занимаются поистине святым делом, стремясь отвести беду от таких больных. Ведутся различные исследования в области генетики. Изучаются наследственные причины возникновения сколиоза.

Возможна ли победа над этой болезнью? Пока можно только надеяться.

Ольга СИЛАНТЬЕВА.

# CONGRESO DE DIPUTADOS DEL PUEBLO DE LA URSS

**En el Congreso de Diputados del Pueblo se desplegó una aguda lucha política, cuyo desenlace determinará los ritmos y la profundidad de las reformas en la Unión Soviética**

### EL CONGRESO EN CONTEXTO Y EN SI MISMO

Si intentamos contestar a los interrogantes formulados en el título, teniendo en cuenta todo el curso de la perestroika desde 1985, especialmente la campaña electoral y las elecciones, varios sucesos que precedieron al Congreso —el Pleno unificado del comité urbano y regional del PCUS de Leningrado, el Pleno de abril del CC del PCUS, la tragedia en Tbilisi, el Decreto del 8 de abril, las últimas decisiones de los Soviets Supremos de las repúblicas del Báltico y muchos otros, o sea, considerando el Congreso en el contexto histórico de la perestroika— la respuesta es evidente. Ha sido un colosal salto adelante, tal vez, incluso superó aquello que los ciudadanos del país teníamos el derecho a esperar. En este sentido, no es muy importante, si todo lo que es debatido en el Congreso se refleja en sus disposiciones concretas sobre los problemas concretos.

Pero hace falta una vez más analizar el Congreso en sí, sin desentendernos de su contexto exterior, pero abstrayéndonos de él. Y en este sentido ya no hay una respuesta incuestionablemente positiva, si justifica o no nuestras esperanzas. Además, debemos tener en cuenta el contexto interno del Congreso, que se compone de dos factores.

Primero, fue la glásnost sin límites, que acortó al mínimo la distancia entre la glásnost autorizada y la libertad de palabra. Yo diría que es una glásnost abnegada, porque, como bien se sabe, las garantías jurídicas, y políticas también, de tal transparencia informativa, son más que precarias aún.

Segundo, el único garante de la glásnost es en el Congreso la voluntad del Presidente del Soviet Supremo. Y no sólo porque a su nombre, o a sus palabras concretas, apelan los partidarios de los criterios a veces diametralmente opuestos. Sino porque, en lo fundamental, en el Congreso muchos siempre están dispuestos —de recibir la mínima alusión desde la presidencia— a reducir la glásnost a su nivel inicial o, incluso, al "preperestroikero".

### PREPARLAMENTO

Sin "aprender" a ser parlamento, el Congreso se convirtió en preparlamento. No pudo ser más, ni objetivamente, porque desde el inicio se le atribuyó la idea de ser colegio de electores del "parlamento auténtico", que es el Soviet Supremo permanente. Ni subjetivamente: la mayoría por ahora no quiere más, y la minoría no logra alcanzar más. En este espeсto, el Congreso justifica las esperanzas de la mayoría de los diputados y aquellos que les entregaron sinceramente sus votos en las elecciones.

Yuri Afanásiev se refirió, y ofendió a muchos con ello, al carácter "estalinista-brezhnevista" del nuevo Soviet Supremo elegido por el Congreso. Desde su punto de vista, como representante radical del ala radical del Congreso, fue convincente. La mayoría no estuvo de acuerdo con él. Y, desde su punto de vista, el de la mayoría, que formó la mayoría del Soviet Supremo, también tuvo razón.

En lo que definitivamente no tiéne razón Yuri Afanásiev, a mi parecer, es en el hecho de que lanzó su acusación a la mayoría. No todo es tan simple. El grupo moscovita, como lo llaman ahora, quería una votación alternativa al Soviet Supremo. Pero no encontró apoyo no sólo entre la mayoría (acaso de veras lo esperaba), sino entre los representantes de la minoría, por ejemplo, de las repúblicas del Báltico. Los diputados del Báltico casi en todos los puntos se solidarizaron con los moscovitas. Pero en este punto particular, el más importante para el procedimiento, los dejaron solos.



*Los delegados de Bielorrusia en la sala del Congreso.*

### LO SECUNDARIO, QUE ES LO PRIMORDIAL

En el mecanismo parlamentario los asuntos de procedimiento no son de primera importancia. Pero en un mecanismo naciente, a veces incluso son más importantes que los más agudos problemas políticos.

Antes del Congreso hubo dos puntos de vista en cuanto a su procedimiento. El primero fue elaborado con la máxima consecuencia por el grupo moscovita y preveía, prácticamente, otorgarle al Congreso las funciones de parlamento. El segundo fue preparado en nombre del Presidium del Soviet Supremo anterior. La concepción de este procedimiento es la del Congreso como "colegio de electores" del Soviet Supremo, por un lado, y como órgano de corrección democrática del **ya elaborado** plan de profundizar la reforma política y económica por el otro.

En el curso de las discusiones previas al Congreso, celebradas en Moscú entre los diputados hubo cierta convergencia (mediante los compromisos) de ambas concepciones, con motivo de lo cual los moscovitas (por lo menos aquellos, a quienes yo conozco personalmente) incluso creyeron que se había logrado cierto consenso. El curso del Congreso desmintió tal opinión: con el apoyo nada silencioso de la mayoría se impuso la segunda concepción, la "no moscovita".

Pero el procedimiento que se impuso, y no sólo debido a los diputados moscovitas, sino más bien gracias a la glásnost explosiva, que detonó en todas las delegaciones, comenzó a fallar desde la primera sesión. Los propios sucesos corrigieron el procedimiento tradicional, aprobado por el Congreso, hacia el procedimiento, que aparentemente fue rechazado, de los moscovitas Pero, por cuanto el compromiso entre ambos procedimientos no se logró de antemano, sino que se produce durante las discusiones, empezaron las "convulsiones": demoras, votaciones repetidas, retorno a temas debatidos, intervenciones, cuyo único propósito era explicar que a uno se le entendió mal, etc. Lo peor es que esas "convulsiones" abrieron paso a la indisciplina de ciertos diputados (que escandalizó a los electores de mentalidad democrática, y simplemente a aquellas personas con un mínimo de cultura), las colas junto a la tribuna, la desconexión del micrófono, sambenitos políticos al contrincante, acusaciones gratuitas.

Veamos cuál fue el motivo del desengaño de muchos electores con respecto al Congreso, debido a que éste no pudo resolver, al comienzo, los problemas de procedimiento.

El desengaño principal es evidente: a veces, el Congreso estuvo al borde del escándalo, provocó la actitud hacia si mismo como un evento propagandístico o, incluso, peor, un espectáculo político. Esto es lamentable, y ojalá que no resulte trágico para la joven democracia. Pero hay varios desengaños de carácter pragmático.

En el Congreso se formularon muchas propuestas concretas, la mayoría de las cuales ni siquiera fue votada. A menudo no insistieron en ello los propios autores de las propuestas, apresurándose a decirlo "todo", como si la glásnost terminara después de su alocución. Varias comisiones constituidas por el Congreso (los sucesos en Tbilisi, la investigación de las acusaciones de Gdlian contra la mafia, o dirigidas contra el propio Gdlian, el "pacto Mólotov-Ribbentrop") fueron creadas después de numerosas intervenciones sobre el mismo problema, y bajo la presión de los electores. No fue votada la propuesta de los diputados campesinos de considerar su declaración como proyecto de resolución del Congreso sobre el problema agrario, ni la propuesta de Gavriil Popov, de presentar un coinforme sobre los problemas económicos, las propuestas en torno a los problemas de procedimiento, la elección en el Congreso del director del periódico "Izvestia" y el presidente del Comité Estatal de Radio y Televisión. Podemos continuar esta lista.

El procedimiento actual le reserva a la minoría, en cualquier asunto, únicamente el derecho a intentar a tomar una y otra vez la palabra, diciendo de nuevo aquello que la mayoría ya rechazó.

No está garantizada la protección del honor y la dignidad del diputado contra las acusaciones carentes de ética. En varias ocasiones se planteó este problema, pero, como efecto, en la lista de las comisiones y comités no figura la comisión sobre la ética. Pero está claro que ésta no quedaría sin trabajo en los próximos tiempos. Y no sólo para resolver los conflictos entre los diputados. En la sala está presente un nutrido grupo de ministros y altos funcionarios del partido, que no son diputados. Los periodistas, que estamos en el balcón de la prensa, vemos que este grupo, constantemente, mediante el aplauso, el murmullo o, incluso, los gritos se inmiscuye en el trabajo del Congreso.

Obtienen iguales posibilidades para intervenir tanto aquellos que hablan en nombre propio, como quienes representan a un grupo de diputados. Siempre se viola, en favor de alguien, el reglamento de las intervenciones. Los presidentes de las sesiones a cada paso comentan las intervenciones de los diputados. El público, los diputados, lo ven todo. Todos lo debaten. En este sentido, sin duda, el Congreso desengañó a muchos.

La conclusión, que ya hacen muchos, es la siguiente: la tribuna del Congreso está abierta para todos, pero el mecanismo de procedimiento y, especialmente, el mecanismo de votación, está en manos de quienes no se sienten muy alegres en vista de la reforma política. Y lo malo no es que, como resultado de ello, no se aprueban las propuestas de la minoría. Lo principal es que la sala y el procedimiento, según el cual se trabaja, no están dispuestos, en serio, a permitir el carácter alternativo de los proyectos: la garantía de que los objetivos y las soluciones sean correctos.

### DIRECCION DE LA REFORMA

El parlamentario tiene su único instrumento: el verbo. Pero muchas palabras no significan muchos hechos. El intento de "empacar" en el discurso todo lo que se acumuló en el alma, sin querer llevar a "hundir en un mar de palabras" el problema. Debido, a los discursos "tradicionalistas", el trabajo del Congreso se alargó, provocando el aburrimiento ante todo de aquellos que ya están aburridos, y quieren irse cuanto antes a casa. El Congreso "se cansa". Pero todavía, además de la elección del Soviet Supremo y el planteamiento agudo de ciertos problemas importantes, aunque locales, no abordó aún los problemas de carácter nacional: las direcciones de las reformas.

Pero en el enfoque de esas reformas ya se manifiesta la estratificación. Hay pocos debates sobre la imperiosa necesidad de la reforma económica radical. Pero existen matices: mercado o no mercado, plena libertad del trabajo campesino o la libertad en los marcos de los koljoses, etc. No obstante, en esto radica la base más real para la consolidación. Si el nuevo jefe de gobierno incluye en su programa la brusca reducción de los ministerios, esto, a mi modo de ver, lo aceptarán todos, excepto ciertos camaradas invitados al Congreso. Si se amplían bruscamente los límites de la autonomía financiera a nivel de república federada o región, también la aplastante mayoría lo apoyará.

Unicamente en este contexto pueden ser resueltos (y lo exigen todos) los problemas de la justicia social y material (elevación de las pensiones, becas, salario mínimo, etc.). Pero la solución no será dada por este Congreso, porque no tiene ningún "poder económico" sustancial.

Aún es más compleja la situación de la reforma política y la democratización, las discrepancias en torno a las cuales prácticamente cada día amenazaron con escindir el Congreso, de la interpretación de la consigna "Todo el poder a los Soviets", en general, la división del poder entre diferentes estructuras que existen en el país, de las diferentes actitudes hacia los derechos humanos, de la soberanía de las repúblicas federadas, etc. Aquí no hay ni rastro de consenso. Sin los compromisos sustanciales, aceptados por ambas partes, será imposible avanzar. Pero temo que la confrontación se agudizó a tal extremo que la mayoría no deseará aceptar compromisos (lo que es comprensible, por cuanto es la mayoría). Aquí ayudaría mucho el arreglo democrático de los derechos de la minoría, o sea, los problemas de procedimiento. Pero, por ahora, lamentablemente no albergo muchas esperanzas en cuanto a ello. La perestroika, como antes, sigue siendo el rehén de las cualidades morales y políticas de los altos dirigentes y, además, no sólo de los dirigentes parlamentarios. ¿Conseguirá el Primer Congreso de Diputados del Pueblo resolver este problema? Hasta el momento, en la citada dirección del foro le queda un largo trecho por recorrer.

Sin embargo, el Congreso se desarrolla de manera bastante imprevisible, mi análisis tiene carácter provisional y bastante subjetivo. Vamos a esperar el fin del Congreso, sin olvidar que es el primero.

**Vitali TRETIAKOV**



*Cientos de moscovitas reunidos en la entrada del hotel "Moscú".*

**Redactor de la página
D. OKÚLIK.**

## *ІНТЭРВ'Ю З КАМПЕТЭНТНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ*

# ТЭАТР ЧАСОЎ ПЕРАБУДОВЫ

**З членам прэзідыума праўлення Саюза тэатральных дзеячаў (СТД) рэспублікі, старшынёй секцыі крытыкі і тэатразнаўства СТД БССР, загадчыкам аддзела тэатра Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Рычардам СМОЛЬСКІМ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

**— У апошнія гады ў краіне выявілася трывожная тэндэнцыя — спад глядацкай цікавасці да драматычных тэатраў. Не абмінула гэтая з'ява і сцэнічнае мастацтва Беларусі. Нездарма, відаць, у распачатай летась тэатразнаўцамі дыскусіі ў часопісе «Мастацтва Беларусі» гучалі думкі пра тое, што «наш тэатр хворы, прытым у даволі цяжкіх формах». Вы таксама так лічыце?**

— Я б так катэгарычна не сцвярджаў, што тэатр хворы, ды яшчэ і ў цяжкай форме. Ён хворы ў той меры, у якой хворая наша культура, усё наша грамадства. Даныя нядаўніх сацыялагічных даследаванняў сведчаць, што ў рэспубліцы кожны жыхар у сярэднім наведвае тэатр адзін раз у тры гады. Пэўная частка насельніцтва ўвогуле не цікавіцца тэатрам (11 працэнтаў ад колькасці апытаных), а рэгулярна наведваюць тэатры толькі 18 працэнтаў жыхароў Беларусі. Лічбы красамоўныя, і яны даюць агульнае ўяўленне аб сітуацыі. Але тым не менш, мне думаецца, каб замежны чытач у поўнай меры мог ацаніць гэту сітуацыю, ён павінен ведаць і многія аб'ектыўныя і суб'ектыўныя абставіны. І наогул разглядаць сённяшняе становішча ў тэатры ў агульным гісторыка-культурным кантэксце. Гістарычна склалася так, што мы не мелі сваёй дзяржаўнасці да 1919 года і адпаведна — дзяржаўнага тэатра. У 20-я гады плённая для нацыі вынікі мела беларусізацыя. Пачала фарміравацца свая інтэлігенцыя, кадры культуры. Аднак амаль увесь гэты тонкі слой культуры быў знішчаны ў гады сталінскіх рэпрэсій. Далейшая палітыка на збліжэнне і зліццё ўсіх нацый і народнасцей таксама пакінула адмоўны знак на культуры народа: паступова губляецца нацыянальная самасвядомасць, гіне мова...

Апошнія два дзесяцігоддзі пазначаны актыўным наступам масавай культуры. Да гэтага, дарэчы, можна ставіцца парознаму. Я ў прынцыпе не супраць авангарда. Але з умовай, калі ён не запаўняе сабой цалкам духоўную сферу.

Усе гэтыя дэталі трэба змясціць на рэальны жыццёвы фон, часта адмоўны. Вось цяпер карціна больш-менш поўная. Што ж ёсць беларуская тэатральная культура ў гэтай карціне? Гэта 10 драмтэатраў, 2 музычныя, 6 лялечных. (Па колькасці тэатраў мы значна адстаём ад многіх савецкіх рэспублік). Цяжкае становішча менавіта нацыянальнага тэатра. Толькі тры з васемнаццаці працуюць на роднай мове. Да крытычнага ўзроўню дайшло карыстанне роднай мовай у рэспубліцы.

Цяпер пра драматургію. Гавару пра «вяршыні». Макаёнак даў нашаму тэатру цудоўны матэрыял для сцэны. Новы лідэр — Дудараў. У яго асобе тэатр атрымаў таленавітага аўтара. Зусім нядаўна заявіў пра сябе Уладзімір Бутрамееў — яго п'еса «Крык на хутары» з поспехам ідзе ў купалаўскім тэатры.

Каб склалася больш дакладнае ўражанне пра беларускую тэатральную культуру на сённяшні дзень, я не магу не сказаць пра крытыку і тэатразнаўства. Нашымі вучонымі ўпершыню ў Савецкім Саюзе была падрыхтавана трохтомная энцыклапедыя гісторыі беларускага тэатра. І гэтым мы можам ганарыцца. Але праблем яшчэ так многа...

**— Перабудова, якая пачалася ў краіне, паступова ахапіла ўсе бакі жыцця. На старонках газет з'явіліся вострыя дыскусіі аб шляхах развіцця культуры, у тым ліку і тэатра. Выказваліся ідэі, прапановы, ішла гаворка аб неабходнасці стварэння ў нас перасоўных тэатраў, гастрольных, кантрактных, сезонных калектываў, тэатраў аднаго спектакля, тэатра «для знаўцаў», разнастайных тэатраў-студый і г. д. Што з гэтых задум рэалізавалася?**

— У сферы тэатральнага мастацтва прынцыпова новае — гэта нараджэнне Саюза тэатральных дзеячаў. Ужо ёсць і пэўныя вынікі яго работы. Напрыклад, СТД стаў арганізатарам беларускіх тэатральных фестываляў. Першы прайшоў у Віцебску. Сёння мы ацэньваем яго як даволі няўдалы. А другі — у 1989 у Гродне — атрымаўся даволі прыстойным. Прыярытэты на ім былі аддадзены нацыянальнай драматургіі. Фестывальная афіша, прынамсі, аказалася дастаткова разнастайнай, было што паглядзець.

Мы сталі штогадовымі ўдзельнікамі аўтарытэтнага фестывалю «Прыбалтыйская вясна». Ён набывае статус міжнароднага, дае магчымасць і сябе паказаць, і іншых паглядзець.

І яшчэ адзін фестываль, які спрыяе развіццю тэатральнага мастацтва ў рэспубліцы, мне хацелася б адзначыць — гэта фестываль аматарскіх тэатраў «Рампа дружбы».

Самае галоўнае, я падкрэслю, што атрымаў тэатр у ходзе перабудовы, — не дэкларавaную, а сапраўдную свабоду творчасці. Ён можа сам выбіраць рэпертуар, выпускаць спектаклі. З'явілася магчымасць ствараць новыя тэатры. Прэцэдэнты ўжо ёсць, я магу тут назваць, напрыклад, тэатр-студыю ў Слоніме, які працуе ў паўпрафесійным статусе на гасразліку. Дзеці перабудовы — і новы тэатр у Мазыры, тэатр-студыя ў Мінску «Дзея», які нядаўна адкрыўся ў адным з мікрараёнаў сталіцы. Усе названыя мною калектывы маюць свае мастацкія праграмы, сваю пазіцыю, сваё творчае аблічча. Тэатрам аднаго спектакля можна назваць «Тэатр-студыю на плошчы Перамогі», які нядаўна ўзнік. Тут паказваюць п'есу Мрожака, аўтара, які не так даўно быў пад забаронай. Тэатры, студыі, гурткі зараз растуць, як грыбы ў спрыяльнае надвор'е. Характэрна, што многія з іх з'яўляюцца актыўнымі прапагандыстамі нацыянальнай драматургіі. Агульны працэс адраджэння нацыянальнай культуры адбіваецца і на тэатры.

**— Вось вы сказалі, што цяпер новыя тэатры растуць, як грыбы ў спрыяльнае надвор'е. А ці не заканамерный з'явай будзе ў такім выпадку закрыццё таго ці іншага тэатра, які «адпрацаваў» сваё, здаў пазіцыі, страціў папулярнасць?**

— У прынцыпе, я думаю, гэта павінна быць заканамернай з'явай. Трупа ў такім выпадку расфарміроўваецца. Але такое пакуль што і ў страшным сне не прысніцца нашаму паважанаму артысту. Наогул у нас не прывыклі лічыцца з законамі функцыянавання таго ці іншага мастацкага калектыву. Гэта датычыцца, між іншым, не толькі тэатра, але і эстрады.

**— У разгар дыскусіі аб шляхах перабудовы тэатральнай справы, бадай што, цэнтральным было пытанне пра ўзаемаадносіны паміж тэатрамі і ўстановамі кіравання культурай. Галоўнай тэмай у тэатральным друку і ў выступленнях на з'ездзе Саюза тэатральных дзеячаў зрабілася некампетэнтнасць працаўнікоў міністэрства і ўпраўленняў культуры. Як зараз складваюцца ўзаемаадносіны з імі?**

— Міністэрства культуры сёння ўжо не манапаліст у тэатральнай справе. Улада, так сказаць, падзелена з Саюзам тэатральных дзеячаў. СТД, у сваю чаргу, валодае рэальнымі юрыдычнымі правамі. Скажам, прызначэнне рэжысёраў у тэатры ідзе пры абавязковым узгадненні з СТД. Але я не хацеў бы ідэалізаваць узаемаадносіны тэатраў з міністэрствам. Тут не трэба ўпадаць у эйфарыю. Проста гэтыя адносіны сталі больш дэмакратычнымі. Міністэрства, у сваю чаргу, — праваднік дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры. Яно субсідзіруе тэатры, разам з СТД каардынуе іх дзейнасць, распрацоўвае стратэгічную лінію развіцця тэатральнай справы. Перабудова, дэмакратызацыя, адкрытасць ставяць тут усё на свае месцы.

**— Пачынаючы з 70-х гадоў у савецкай драматургіі намецілася тэндэнцыя натуралістычнага паказу рэчаіснасці, люстэркава-фатаграфічнага адбітку, прычым толькі з негатыўнага яе боку. Гэта драматургія атрымала сваю назву — «новая хваля». А ў апошні час многія драматургі, так і не паспяваючы за прэсай, заняты выкрывальніцтвам заганнага ў нашым жыцці. Паглядзіш іншы раз спектакль — і жыць не хочацца...**

— Ну не трэба ўжо так драматызаваць. Хаця сапраўды ёсць над чым задумацца. Драматургія «новай хвалі» заявіла пра сябе ў 60-я гады. Яна была выклікана той палітычнай адлігай, якая наступіла ў краіне пасля XX з'езда партыі. Па сутнасці, гэта была першая спроба пратэсту супраць замоўчвання рэальнага стану спраў у краіне. Адным з пачынальнікаў драматургіі «новай хвалі» ў нас быў Яўген Шабан. У сваёй п'есе «Шрамы» ён з вялікай доляй адкрытасці загаварыў пра заганы нашага грамадства, пра двайную мараль, якая станавілася нормай і калечыла душы, пра бездухоўнасць. Праўда неабходная была ўсім, хаця і горкая. Таму я лічу, што «новая хваля», як кажуць, «спрацавала». Таксама, як і паказ са сцэны многага заганнага, адмоўнага ў нашым жыцці ўжо ў перыяд перабудовы можна лічыць станоўчай з'явай. Гэта маё меркаванне. Але існуе думка, што поўнае развянчанне былых аўтарытэтаў, гераічных спраў пазбавіла народ веры, абясцэніла абвешчаныя сацыялізмам каштоўнасці.

Трэба згадзіцца, што праўдай у апошнія гады нас проста аглушылі. Настолькі яна аказалася жорсткай. Праўдай пра калектывізацыю, пра індустрыялізацыю, пра масавыя рэпрэсіі супраць народа... Праўда цяпер дэкларавана «зверху», у наш час можна крытыкаваць практычна ўсё, не баючыся нікога і нічога. Вось і крытыкуюць. На жаль, тэатр тут не пайшоў далей канстатацыі фактаў. І на даны момант гледача ўжо цяжка здзівіць, усхваляваць паказам «свінцовых агіднасцей» жыцця. Бо пра гэта вы ведалі з нашай прэсы, і літаратуры, і кінематографа. У тэатра ж свае задачы, не падобныя на тыя, якія трэба вырашаць публіцыстыцы. Яго задача — мастацкае асэнсаванне рэчаіснасці і жыцця ва ўсіх супярэчнасцях. Характэрная ў гэтым сэнсе творчасць аднаго з вядучых рэжысёраў Валерыя Маслюка. Ён паставіў некалькі спектакляў, якія можна аднесці да «выкрывальніцкіх». Апошняй работай, спектаклем «Звалка» па п'есе Дударава, ён выразна паставіць кропку на «выкрывальніцтве». Бо, зразумела, як мастак, адчувае, што сённяшняму гледачу патрэбен спектакль, пагляздзеўшы які, чалавек убачыць прамень святла, выхад з доўгага тунэля.

**— Усе мы памятаем поспех спектакляў па п'есах Макаёнка, Дударава «Парог», «Вечар», «Радавыя», інсцэніроўкі аповесці Быкава «Знак бяды», рамана Чыгрынава «Плач перапёлкі». Іх яднае роздум і над гістарычным вопытам народа, і над пытаннямі сучаснасці. Але ж месца такіх спектакляў у афішы даволі сціплае. А між тым рэчаіснасць дае падставы для роздуму і трывог. Аварыя ў Чарнобылі, парушэнне сістэмы маральных каштоўнасцей, страта гістарычнай памяці, разбурэнне экалагічнага асяроддзя, хімізацыя прадуктаў сельскай гаспадаркі, беззваротная страта помнікаў нацыянальнай культуры, занядбанасць беларускай мовы. Праблемы гэтыя ўсенародныя і таму, што датычаць кожнага з нас, і таму, што вырашыць іх можна толькі ўсім разам, выпрацаваўшы дакладную і дзейсную пазіцыю грамадскасці. А гэта непасрэдная справа тэатра. Але ён маўчыць... Ці, можа, яму не даюць магчымасці гаварыць пра ўсё гэта бюракраты, чыноўнікі!**

— Чыноўнікі да гэтага якраз не маюць дачынення. Хаця так зручна было б спіхнуць уласныя грахі на іх. Тэатр і сапраўды маўчыць. Лёгка абвінавачваць яго ў тым, што не гаворыць з намі пра вынікі чарнобыльскай аварыі... Але ж я хачу стаць на абарону тэатра. Наша драматургія недзе на подступах да такога матэрыялу. Яна набіраецца сіл, углядаецца ў сутнасць таго, што адбываецца. Бо ілюстрацыйны падыход, як я ўжо казаў, — гэта пройдзены этап. У сённяшняй сітуацыі тэатру не варта спаборнічаць з газетай. Трэба шукаць сваё месца ў духоўным жыцці народа. І пачынаць трэба, як мне здаецца, з вяртання народу яго гістарычнай памяці. Мне плённай бачыцца гістарычная тэматыка. Нездарма ж такой папулярнасцю карыстаюцца ў гледача п'есы У. Караткевіча.

**— У сувязі з пранікненнем рыначных адносін у сферу мастацтва, у прыватнасці, пераходам нашых тэатраў на гасразлік, узнікае мноства новых праблем, якія патрабуюць тэарэтычнага асэнсавання. Напрыклад, купалаўцы, удзельнічаючы ў эксперыменце, вымушаны былі іграць па 520 спектакляў у год — роўна ўдвая больш за навукова абгрунтаваную норму. Патагонная сістэма, думаецца, не садзейнічае развіццю высокага мастацтва. Наадварот, як сведчыць практыка, сур'ёзная драматургія вымываецца «творамі» маскультуры, а фінансавая і пацяшальная функцыі тэатра становяцца прыярытэтнымі. У чым вы бачыце выхад з гэтай даволі драматычнай сітуацыі?**

— Так, праблема існуе. Гаспадарчы разлік вымушае выршыцца, шукаць шляхі прыцягнення ў тэатр гледача. З гледачом у нас, звяртаю ўвагу на гэты момант, даволі цяжка. У тым плане, што самая шырокая публіка пакуль яшчэ не далучана да тэатральнага мастацтва, і адпаведна густы яе не надта патрабавальныя. Таму тэатр апынуўся ў складанай сітуацыі. З аднаго боку — высокая місія. З другога — клопат пра сваё матэрыяльнае становішча. Камерцыялізацыя і мастацтва. Супярэчнасці ў гэтым ёсць. Але ж я мушу зазначыць, што ўведзены ў нашых тэатрах гасразлік прадугледжвае і дзяржаўныя датацыі. Увогуле рынак у сферы мастацтва немагчымы без фінансавай дапамогі дзяржавы. У Амерыцы, напрыклад, — гэта пераважна спонсарства карпарацый і прыватных асоб, у Англіі — фінансаванне на адлегласці «выцягнутай рукі» з дапамогай незалежнага ад урада «савета мастацтва», а ў Францыі — гэта непасрэднае фінансаванне цераз міністэрства культуры. А адзін з самых вядомых у Мюнхене тэатраў — «Камер шпіле» 80 працэнтаў затрат пакрывае за кошт датацый ад мясцовага муніцыпалітэта і бюджэту Баварыі.

Адзначу, што з пераходам на гасразлік Міністэрства культуры рэспублікі павялічыла сваім тэатрам памер датацый. Напрыклад, купалаўскі тэатр цяпер атрымлівае 380 тысяч рублёў у год. Зразумела, гэта малавата. Але ж у краіне цяпер многа цяжкасцей, і не лічыцца з гэтым нельга.

Таму мая думка, што тэатры ў такой сітуацыі павінны ісці на разумны кампраміс, фарміруючы свой рэпертуар. У ім павінен быць духоўны пажытак і для эстэта, і для менш патрабавальнага гледача. Але пры ўсім пры гэтым заўсёды памятаць, што мастацтва, калі яно хоча застацца мастацтвам, не можа ісці на паводзе ў гледача.

**— Газета «ЛіМ» нядаўна апублікавала распрацаваны Міністэрствам культуры і Саюзам тэатральных дзеячаў БССР праект «Праграмы развіцця тэатральнай культуры Беларусі». Наколькі я ведаю, вы прымалі самы актыўны ўдзел у яе стварэнні...**

— Я проста шчаслівы, што такая праграма нарэшце з'явілася. Яна прадугледжвае комплекснае вырашэнне многіх вузлавых момантаў. У распрацоўцы і ажыццяўленні новай дзяржаўнай палітыкі ў сферы тэатра будуць улічвацца ў першую чаргу нацыянальныя і сацыяльна-дэмаграфічныя асаблівасці Беларусі, яе мастацкія традыцыі, а таксама першаступенныя і перспектыўныя задачы далейшага палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця рэспублікі ў кантэксце агульнасаюзнага працэсу будаўніцтва сацыялістычнай прававой дзяржавы. Асноватворным прынцыпам «перабудаванай» дзяржаўнай палітыкі ў галіне сцэнічнага мастацтва з'яўляецца прынцып неабходнасці фарміравання новых мадэляў сацыяльнага функцыяніравання тэатра, пераходу ад дзяржаўнага да грамадска-дзяржаўнага кіравання тэатральнай справай.

Што ж канкрэтна будзе рабіцца? Мяркуем стварыць у Мінску Беларускі нацыянальны дзіцячы культурны цэнтр. Плануецца таксама адкрыць тэатр гістарычнай драмы і эксперыментальны тэатр беларускай драматургіі. Акрамя таго, павінны быць створаны беларускія трупы ў абласных тэатрах.

У сэнсе сацыяльнай абароненасці СТД ужо прыняў рашэнне аб даплаце да пенсій артыстаў.

Мяркуем адкрыць штогадовы альманах «Беларуская драматургія» і часопіс «Беларускі тэатр».

Пералічыць усё, як вы разумееце, немагчыма. У праграме шмат пунктаў. Галоўнае зараз, каб усе гэтыя добрыя намеры не засталіся на паперы.

**— Дзякуй вам. І спадзяюся, што наш тэатр яшчэ скажа сваё слова, што ў гэты храм мастацтва мы неаднойчы прыйдзем, каб ачысціць і ўзвысіць душу.**

# ПІСЬМЕННІКІ З БЕЛАСТОКА

Беласток з кожным годам адыгрывае ўсё большую ролю ў культурным жыцці Польшчы. Аб гэтым сведчыць і той факт, што нядаўна ў горадзе адкрыты аддзел Саюза польскіх пісьменнікаў. Шасцёра з іх пабывалі ў Гродне, сустрэліся з сябрамі беларускага клуба «Паходня» і польскага Таварыства імя А. Міцкевіча. Прадстаўляў гасцей сакратар абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР Аляксей Карпюк. Кожны з беластоцкіх літаратараў знайшоў свой адметны шлях у прыгожым пісьменстве.

Піша вершы і прозу, перакладае з беларускай і арабскай моў Ян Леанчук. Апошнім часам зацікавіўся паэзіяй В. Брусава, імкнецца, каб ягоныя вершы прыгожа загучалі па-польску. Некаторыя з уласных вершаў Я. Леанчук зачытаў прысутным.

Кніжкі Аляксандра Амельяновіча з серыі вайсковых прыгод, прыкладам «У Белавежскай пушчы», добра вядомы савецкім чытачам. Наогул жа 24 кнігі аўтара перакладзены на восем моў. Яго хобі з'яўляюцца падарожжы. Ён наведаў 53 краіны, напісаўшы потым кнігі падарожных нататак. Шмат у якіх сваіх творах Амельяновіч піша пра беларусаў. Працуючы над адным з нарысаў — пра славуты ў перадваеннай Польшчы працэс над С. Прытыцкім, ён сустрэўся з самім Сяргеем Восіпавічам.

Унук сасланага ў Сібір у 1863 годзе паўстанца Дзіянізі Сідорскі напісаў вядомую ў ПНР біяграфію беларускага магната Радзівіла — Пане Каханку. Акрамя таго, ён з'яўляецца рэдактарам часопіса «Кантрасты», які выходзіць у Беластоку. У ім, дарэчы, друкуюцца матэрыялы і пра беларусаў. У прыватнасці, публіцыстычная кніга Сакрата Яновіча «Беларусь... Беларусь...» упершыню з'явілася на старонках гэтага часопіса.

Літаратурны крытык Вальдэмар Смаршу цікавіцца рэлігійнай тэмай у польскай літаратуры. Ён таксама займаецца перакладамі з беларускай і рускай моў.

Віктар Швед — адзін з вядучых беларускіх паэтаў у ПНР. Шмат гадоў прысвяціў ён выдавецкай справе, а зараз, атрымаўшы пенсію, перабіраецца жыць са сталіцы ў Беласток. Усе ведаюць яго як пераважна дзіцячага паэта, але патрыятычныя вершы, якія прагучалі на сустрэчы, засведчылі, што В. Швед можа цікава выступаць і па-за сваім амплуа.

Сярод самых плённых аўтараў у беларускім літаратурным аб'яднанні «Белавежа» справядліва называюць Сакрата Яновіча. На жаль, дагэтуль выйшлі толькі дзве ягоныя кнігі на роднай мове: адна ў Беластоку, другая — у Мінску, бо выхад кніг беларускіх аўтараў у Польшчы пакуль мае вялікія цяжкасці. Праўда, усе творы пісьменніка з'явіліся ў польскіх перакладах. Вялікі розгалас у ПНР мела кніга «Беларусь... Беларусь...», напісаная Яновічам спецыяльна для палякаў. Зараз выдавецтва «Мастацкая літаратура» плануе выпусціць раман пісьменніка «Самасей» — аб праблемах горада і вёскі на Беласточчыне.

Прыезд і літаратурная вечарына беластоцкіх пісьменнікаў у Гродне — пакуль што першая ластаўка ў такіх кантактах. На сустрэчы выказваліся пажаданні, каб абмен падобнымі візітамі стаў для пісьменнікаў Гродна і Беластока нормай.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ.

КНІГАВЫДАВЕЦКАЯ СПРАВА Ў КРАІНЕ

# ЯШЧЭ ДАЛЁКА ДА ІДЭАЛА

ГЭТАЙ важнай праблеме была прысвечана першая навуковая сесія створанага менш года назад Інстытута кнігі. Сесія прайшла ў Маскве пад дэвізам «Кніга. Грамадства. Перабудова». Тры дні пленарных пасяджэнняў, работы секцый і «круглых сталоў» відавочна паказалі: працэс абнаўлення ў савецкім грамадстве немагчымы без сур'ёзнай рэформы ўсёй кніжнай справы ў краіне, якая ў сілу цэлага шэрагу прычын пачала страчваць рэпутацыю «самай чытаючай краіны ў свеце».

Пра гэта з трывогай гаварылі многія з тых, хто выступаў, — ад акадэміка Леаніда Абалкіна да публіцыста Мікалая Шмялёва (па праведзенаму Інстытутам кнігі рэйтынгу ён з'яўляецца сёння савецкім «публіцыстам № 1»), ад мітрапаліта Піцірыма, старшыні выдавецкага аддзела Маскоўскай патрыярхіі, да дырэктара Навукова-даследчага інстытута кнігі доктара філасофскіх навук Анатоля Салаўёва.

На сесіі прагучалі вельмі цікавыя ў гэтым сэнсе даныя, што сведчаць, як у кніжным «люстры» наглядна адбіваецца дынаміка сацыяльна-маральнага стану грамадства на тым ці іншым этапе яго развіцця. Напрыклад, калі ў гады НЭПа ў Савецкай краіне друкавалася ўсё больш і больш **новых** кніг (рост колькасці новых назваў з'яўляецца, паводле ацэнак спецыялістаў, крытэрыем поспеху не толькі самой кніжнай справы, але і інтэлектуальна-маральнага клімату грамадства), то ў сумна славутым 1937 годзе адбыўся яўны спад. На самай справе: 55 тысяч новых назваў у 1931 годзе і 37 тысяч — у 1937-м. Аналагічная дынаміка (ці хутчэй, антыдынаміка) і пры далейшых змяненнях палітычнай «пагоды»: уздым, што прыпадаў на гады хрушчоўскай «адлігі» (з 55 тысяч новых назваў у 1955 годзе да 79 тысяч у 1962-м), і марудны, але непазбежны спад у гады, што называюцца сёння перыядам застою: 1964-ты — 78 тысяч, 1969-ты — 74 тысячы і гэтак далей.

Сёння становішча гэта пачало прыкметна выпраўляцца, але да ідэала яшчэ вельмі далёка: некаторы рост колькасці новых кніжных назваў, як ведаюць мільёны савецкіх кнігалюбаў, усё яшчэ не пазбавіў нас ад аднаго з самых хранічных і хваравітых дэфіцытаў — кніжнага. Акрамя таго, рост гэты, на жаль, не з'яўляецца стабільным: 83 тысячы ў 1987 годзе і 81,6 — у мінулым. Паводле даных Навукова-даследчага інстытута кнігі, адна з галоўных задач якога заключаецца ў тым, каб, зыходзячы з інтарэсаў спажыўца, адладзіць нармальную зваротную сувязь паміж вытворцамі кнігі і яе чытачамі, ад сямісот да васьмісот тысяч патэнцыяльных аўтараў кніг (навуковых, мастацкіх, публіцыстычных) усё яшчэ не могуць апублікавацца ў выдавецтвах. А між тым, сярод іх, як патэтычна ўсклікнуў адзін з прамоўцаў, «могуць быць і невядомыя нам Пушкіны, і новыя Мендзялеевы».

Ледзь ці не галоўная прычына такога становішча — а выправіць яго і спрабавала навуковая сесія, на якой былі вучоныя і практыкі кніжнай справы не толькі з СССР, але таксама з-за мяжы, — недахоп паперы. Прад'яўляючы сур'ёзныя прэтэнзіі міністэрствам і ведамствам, якія адказваюць за яе вытворчасць, удзельнікі сесіі разам з тым звярнулі ўвагу і на іншае: да сёння працягвае друкавацца вялікая колькасць «шэрай» літаратуры — не менш дзесяці працэнтаў, якая мёртвым грузам ляжыць на паліцах кнігарань і бібліятэк. А шаснаццаць працэнтаў такой дэфіцытнай паперы ўсё яшчэ — нягледзячы на барацьбу з бюракратычнай «паператворчасцю» — ідзе на канцылярскія патрэбы міністэрстваў і ведамстваў. Усё гэта тыя рэзервы, якія ўжо сёння, на думку многіх, здольны калі не пакончыць з папяровым (і кніжным!) голадам, то, ва ўсякім разе, змякчыць яго вастрыню.

Шляхі ўдасканалення кнігавыдавецкай справы ў краіне, выкарыстанне ў рабоце выдавецтваў пачаткаў гасразліку і арэнды, развіццё кнігазнаўства, шырокае прымяненне «сацыялогіі кнігі і чытання» (так называлася адна з трох секцый, што працавалі на сесіі), роля духоўнай культуры ў выхаванні новага пакалення чытачоў — гэтыя і многія іншыя пытанні былі прадметам зацікаўленай размовы. Галоўнае ж, падкрэслівалі ўсе, каб справа не абмежавалася толькі размовай, а знайшла сваё выяўленне ў выпуску новых цікавых кніг, чый шлях да чытача павінен стаць значна карацейшым, чым сёння.

І апошняе, у чым таксама не было рознагалоссяў: кніга ніколі больш, як гэта не раз здаралася, не павінна «ўзыходзіць на эшафот»: ні ў якасці ка́та — было і такое! — ні ў якасці ахвяры. Яна павінна мець права на жыццё ва ўмовах, калі яе адзіным суддзёй, па словах публіцыста Фёдара Бурлацкага, будзе толькі той, дзеля каго яна ствараецца, — яе ЧЫТАЧ.

Юрый КАЦНЕЛЬСОН.



**У рэпертуары самадзейнага танцавальнага ансамбля Віцебскага панчошна-трыкатажнага камбіната імя КІМ разам з беларускімі, рускімі, малдаўскімі, іншымі танцамі народаў СССР нямала і жартаўлівых харэаграфічных сцэнак. Момант рэпетыцыі адной з іх і паказаў фотакарэспандэнт. На пярэднім плане — салісткі ансамбля Іна ПАЛІШЧУК і Лада БАЛАШОВА.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА.**

ДРУГІ ФЕСТЫВАЛЬ ВЫКАНАЎЦАЎ ПОЛЬСКАЙ ПЕСНІ

# ПРАЦЯГ ТРАДЫЦЫІ

**Другі Усесаюзны конкурс і фестываль выканаўцаў польскай песні пройдзе з 19 па 23 ліпеня 1990 года ў Віцебску. Такое рашэнне прынялі яго арганізатары-заснавальнікі. З гэтага часу Усесаюзны фестываль і фінальны тур конкурсаў выканаўцаў польскай песні ў Віцебску будзе праводзіцца рэгіянальна раз у два гады. Аб асаблівасцях чарговага фестывалю і ходзе яго падрыхтоўкі расказвае начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры БССР Т. СТРУЖЭЦКІ.**

— Мы, арганізатары, ды і ўсе тыя, каму давялося прымаць удзел у першым Усесаюзным фестывалі, яшчэ поўныя ўспамінаў аб маляўнічым музычным свяце. Ён з'явіўся важнай грамадска-палітычнай падзеяй, яркай праявай духоўнай блізкасці і вялікага ўзаемнага інтарэсу савецкіх і польскіх людзей. Асаблівую значнасць гэтаму ўсесаюзнаму песеннаму святу надалі прывітанні, з якімі звярнуліся да ўдзельнікаў і гасцей фестывалю Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў і Першы сакратар ЦК ПАРП В. Ярузельскі. Вялікі рэзананс выклікаў удзел у фестывальных мерапрыемствах дэлегацый ЦК ПАРП, ЦК КПСС, кіраўнікоў партыйных і савецкіх органаў рэспублікі, лётчыкаў-касманаўтаў СССР П. Клімука і М. Гермашэўскага, вядомых дзеячаў літаратуры, культуры і мастацтва. У фестывальным конкурсе прынялі ўдзел 15 салістаў і 21 вакальна-інструментальны ансамбль і група, звыш 200 выканаўцаў з розных рэгіёнаў краіны. У канцэртах выступілі 137 майстроў польскай і 248 савецкай эстрады.

А ўсяго было праведзена 23 канцэрты, на якіх прысутнічала больш за 100 тысяч гледачоў. Словам, фестываль заявіў аб сабе шырока і гучна, адкрыў новыя творчыя імёны і калектывы. І задача сёлетняга — захаваць гэты высокі ўзровень, расшырыць геаграфію і склад удзельнікаў, выключыць недахопы.

Характэрнай асаблівасцю фестывалю з'яўляецца тое, што асноўная ўвага будзе нададзена конкурсным мерапрыемствам, павялічыцца колькасць конкурсных тураў. Удзельнікі выканаюць на 1-м туры па адной песні, на 2-м — па дзве, на 3-м — па тры песні. Канцэрты будуць заканчвацца выступленнямі зорак савецкай эстрады. Асноўная стылявая накіраванасць конкурсу — эстрадныя, танцавальныя, маладзёжныя польскія песні. Журы, у якое ўвойдуць вядомыя выканаўцы, музыканты і кампазітары, будзе ацэньваць мастацкі ўзровень і самабытнасць выканання песень, інтэрпрэтацыі рэпертуару, а таксама артыстычнасць выканаўцаў, якасць аранжыровак і інструментовак. У час фестывалю будзе арганізавана работа творчых майстэрань па абмену вопытам паміж польскімі і савецкімі артыстамі, кампазітарамі.

Некалькі слоў аб тэрмінах і парадку правядзення фестывалю. З мая па лістапад гэтага года па рэспубліцы пройдуць занальныя і абласныя конкурсы выканаўцаў, а ў студзені 1990 года ў Віцебску мяркуецца правесці рэспубліканскі адборачны. Аналагічныя мерапрыемствы будуць праведзены ва ўсіх рэспубліках краіны, а таксама занальныя адборачныя туры ў гарадах. На заключным конкурсе ў Віцебску будуць спаборнічаць каля 40 удзельнікаў — салістаў і ансамбляў. Пераможцам прысуджаецца званне лаўрэатаў і ўручаюцца памятныя прызы. Выканаўцы, якія зоймуць першыя тры месцы, атрымаюць права на паездку ў ПНР і будуць рэкамендаваны для запісу на грампласцінку. Плануецца шырокая прапаганда пераможцаў фестывалю, арганізацыя іх канцэртаў у Беларусі і гарадах іншых рэспублік краіны.

А пакуль вядзецца карпатлівая падрыхтоўчая работа. Зацверджаны саставы аргкамітэтаў і рабочых груп, створана дырэкцыя фестывалю, рыхтуецца рэкламная і сувенірная прадукцыя.

# СВЯТА НА БРАСЛАЎШЧЫНЕ



Нават дождж не сапсаваў прыўзнятага настрою ў тых, хто сабраўся на традыцыйнае свята «Браслаўскія зарніцы», якое адбылося ў раённым цэнтры гэтага цудоўнага азёрнага краю. Гучалі песні, музыка, былі атракцыёны. Сваё майстэрства дэманстравалі фальклорныя калектывы. Адбылася і выстаўка работ народных майстроў, дзе былі шырока прадстаўлены разьба па дрэву, ткацтва, вышыўка, вырабы ганчароў. Любую ўпадабаную работу можна было купіць на аўкцыёне. Народнае гулянне працягвалася дапазна.

НА ЗДЫМКАХ: сваё майстэрства дэманструе ганчар з Браслава Ніна КУЗЬМІНАВА; удзельнікі свята на вуліцах Браслава; выступае зводны хор раёна.

Фота Я. КАЗЮЛІ.





*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

## СУСТРЭЧЫ З ПРЫРОДАЙ

Напэўна, прачытаўшы гэты загаловак, хто-небудзь іранічна ўсміхнецца: «Ну што за дзіва сустрэча з прыродай. Выйдзі з пад'езда дома і — калі ласка — сустракайся: і траўка на газонах, і кветкі, і лісце радуе сэрца аксамітам зеляніны».

Усё гэта так. Ды не зусім. І траўка на газоне, і кветкі, і парк, і лес, вядома, — прырода. Але захапляемся ёю мы ў большасці сваёй чыста знешне. А вось паспрабуй заглянуць глыбей, раскрыць таямніцыляснога жыцця! Не кожнаму гэта даецца. Таму і цэнім мы кнігі пісьменнікаў, якія могуць данесці да нас такія асаблівасці навакольнага свету, аб якіх і не здагадваешся. Цэнім за тое, што яны дапамагаюць нам дайсці да сутнасці Жыцця, усвядоміць сваё месца ў складаным і ў той жа час такім крохкім арганізме прыроды. Прачытаеш і задумаешся аб каранях, якія трымаюць чалавека ў мясцінах, дзе нарадзіўся, і што кліча яго туды праз гады, праз адлегласць... Можа, глухі пошум дрэва над бацькоўскаю хатаю, дрыготкая мелодыя песні салаўя, пагляд вавёркі з дупла? Ці задуменны росны ранак, калі ты з вудаю ў руках, з трымценнем сэрца сядзіш над спавітым пасмамі туману ціхім плёсам?

Такія думкі не раз узнікалі, калі чытаў кнігу Віктара Гардзея «Коцікі на вярбе». Прыцягвае ўвагу сама вокладка выдання. Удалы малюнак спалучае ў адно цэлае многія прыкметы вясны. Тут і сон-трава, і тыя ж бухматыя коцікі на вярбе, і хітры ліс, і даўганогая шэрая чапля. Мастак Л. Зяневіч, напэўна, шчыра, усёй душою ўспрыняў тон паэзіі Гардзея, цёплы, пяшчотны, далікатны, дасціпны, і перадаў яго даволі дакладна ўжо першым, заставачным малюнкам. Дарэчы, ён умела, хаця і спрошчана (для дзіцячага ўспрымання свету якраз такое і патрэбна) пабудаваў і ўсе астатнія ілюстрацыі да к[illegible]іх шмат. Кожны верш, кожная старонка аздоблены арыгінальнымі малюнкамі. Яны не толькі ўпрыгожваюць кніжку, але і дапамагаюць зразумець сэнс сказанага паэтам, пазнаёміцца з самымі рознымі звярамі і птушкамі Беларусі. Думаецца, дзеці, ды і дарослыя, прачытаўшы вершы В. Гардзея, а пасля спаткаўшы іх герояў, адразу пазнаюць у лесе і глушца, і зязюлю, і янота-паласкуна, і саву.




Але вернемся да саміх вершаў, якіх сабрана тут больш шасці дзесяткаў. Перагортваю старонкі, а пагляд шукае той самы верш, назва якога стала і назвай усёй кніжкі. Знаходжу, і сэрца адразу патанае ў светлай песні вясне, абуджэнню прыроды:

**Жураўліная труба**
**Праспявала весела.**
**Косы доўгія вярба**
**Над вадою звесіла.**

«Жураўліная труба»... Для недасведчанага чытача гэтыя словы могуць здацца проста ўдалай метафарай. Але ж я сам колькі разоў назіраў жораваў вясной. Іх голас, звонкі, магутны, бясконца радасны ад вяртання на радзіму, сапраўды вельмі падобны на голас трубы. Вось жураўліны кліч пралятае над абшарамі ляснога балота, пераскоквае сцяну высокага бору і нясецца далей, лунае над Палессем. Ты стаіш і не можаш зразумець, адкуль такая моц, такая ўсеўладная сіла? Нават не верыцца, што жоравы, звычайна таемныя і ціхія, здольныя на такую песню. А яны здольныя. Сам бачыў і чуў. Паэт вельмі трапна прыкмеціў гэта і зрабіў жураўліны покліч знакам абуджэння прыроды, вяртання яе веснавых сіл.

Для кніжкі «Коцікі на вярбе» характэрны шчыры і ёмісты гумар. Удала перададзеныя вершаваным радком смешныя рысачкі ў характарах лясных насельнікаў запамінаюцца надоўга. Прачытаеш, скажам, верш «Гультайка» і шчыра пазайздросціш аўтару за яго ўменне праз вобраз зязюлі высмеяць гультаёў і абібокаў. Але ўважлівы юны чытач можа даведацца з гэтага кароткага твора і пра іншых птушак. Пра тое, напрыклад, што сойка будуе сваё гняздо з тонкіх сухіх галінак, ластаўка — з глею, дзяцел старанна выдзёўбвае дупло ў сухой алешыне.

Шчырая любоў да роднага краю кіруе думкамі паэта. І яны выліваюцца на паперу кароткімі дасціпнымі радкамі вершаў. Выразнымі і дакладнымі, вобразнымі і запамінальнымі. Ды і не могуць не запомніцца гэтыя вершы, бо напісаны яны ад усяго сэрца. Адчуваецца, што В. Гардзей выдатна ведае беларускую прыроду, мае багаты запас назіранняў за жыццём птушак і жывёл, адчувае і млосны пах чаромхавай квецені, і музыку сунічнай палянкі, і настрой кожнага дня лясной рэчаіснасці.

Завяршаецца кніга вершаванымі казкамі.

Васіль ЖУШМА.

## Спорт

Міжнародныя традыцыйныя спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы, прысвеча[illegible] памяці братоў Знамен[illegible]х, завяршыліся ў Валгаградзе. Тут высокімі вынікамі парадавалі беларускія спартсмены. Вось некалькі прыкладаў.

Лепшы вынік сезона ў свеце ў кіданні молата паказаў Ігар Астапковіч з Гродна — 82 метры 48 сантыметраў. Наш атлет змог выйграць у двухразовага алімпійскага чэмпіёна кіяўляніна Юрыя Сядых.

Мінчанка Кацярына Храмянкова — марафонка. На гэты раз паспрабавала сябе ў бегу на 5 000 метраў. І вельмі паспяхова. Яе час — 15.29,19 — таксама лепшы ў свеце вынік сёлетняга сезона.

Не абышлося на гэтых спаборніцтвах і без рэкордаў. Вызначыўся малады спартсмен Уладзімір Сасімовіч, які атрымаў перамогу з новым рэспубліканскім дасягненнем у кіданні кап'я — 80 метраў 94 сантыметры. Ён выканаў нарматыў майстра спорту міжнароднага класа.

Сёлета поспех спадарожнічае бар'ерысту з Віцебска Уладзіміру Будзько, які ад спаборніцтва да спаборніцтва паляпшае час у бегу на 400 метраў: на турніры за прызы газеты «Правда» — 50.15, «Кубка Рыгі» — 49.74, а цяпер у Валгаградзе — 49.43.

## У ФОНД ДАПАМОГІ БЕЛАРУСКАМУ МУЗЕЮ

**Кожны, хто хоча падтрымаць матэрыяльна будаўніцтва Музея беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху (Беларускага музея) у Гайнаўцы на Беласточчыне (ПНР), мае магчымасць цяпер зрабіць сваё ахвяраванне праз Беларускае таварыства «Радзіма».**

**Як арганізацыі, так і прыватныя асобы могуць пералесці свой добраахвотны ўзнос**

**НА РАХУНАК № 141713 БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА» Ў ЖЫЛСАЦБАНКУ Г. МІНСКА.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. № 707